ШКОЛЬНАЯ ЖИЗНЬ

# «ТАНЦУЮЩИЙ» КЛАСС

**Владимир МАРТЫНОВ.**

С высоты наших собственных глобальных проблем, крупномасштабных политических баталий повседневные детские хлопоты, переживания, обиды, неудачи воспринимаются нередко как несущественные, наивные, крошечные. И вот здесь-то мы и упускаем самое значительное, самое главное, о чем со временем придется горько сожалеть.

В одном из лучших классов СШ № 166 г.Минска произошло «ЧП». Андрей С. прямо в школьном гардеробе в присутствии одноклассников стал мочиться на Сашу Ф. Это неожиданное унижение так поразило безобидного, уравновешенного, всегда приветливого паренька, что он со слезами на глазах прибежал домой и обо всем рассказал родителям. Срочно собрали родительское собрание. Досталось всем: Андрею, его родителям, ученикам, присутствовавшим в раздевалке во время унизительной «экзекуции», и даже девочкам.

Но никто из пришедших на собрание тогда не смог осознать, что «ЧП» имеет определенную связь с тем микроклиматом, который как-то незаметно сложился в классе в последнее время.

Внешне это был самый благополучный коллектив. Высокая успеваемость, танцевальные репетиции несколько раз в неделю, выступления с концертами. И все это благодаря классному руководителю Тамаре Станиславовне Макаревич. Ее воспитанники даже дважды выступали по телевидению. Казалось бы, чего желать лучшего, воспитательные успехи налицо. Но вместе с очевидными успехами к Тамаре Станиславовне пришла глубочайшая вера в собственную непогрешимость. Как-то исподволь она начала обучать своих воспитанников еще и танцам вокруг собственной личности. Это постепенно «раскололо» когда-то дружных учеников, их родителей на два лагеря: тех, кто быстро уловил эту происшедшую перемену и стал беспрекословно поддерживать любую точку зрения учительницы, и тех, кто не стал заискивать.

За первых Тамара Станиславовна стояла горой, завышала отметки. Позже начала просить и коллег о подобной «услуге». И проявляла такую сверхнастойчивость и энергию, что порой вызывало обратную реакцию. Так, однажды одна из учительниц во время урока сказала Оле Б.: «Все, пусть Тамара Станиславовна больше не просит за тебя». И у Оли, круглой отличницы, впервые за всю учебу появилась четверка за четверть.

Выступления с концертами организовывались все реже. Зато необъективность проявлялась все чаще. Дело стало доходить до смешных мелочей. На уроке белорусской литературы Андрея К. вызвали к доске рассказывать стихотворение. Знал он его плохо, но на столе учительницы лежал открытый учебник и Андрей не преминул этим воспользоваться. Катя М. сделала замечание. И ученику снизили отметку. Казалось бы, если и возникла тема для разговора, то только по поводу того, как некрасиво халтурить, даже по мелочам. Но произошло нечто иное. Андрей пожаловался маме, мама — Тамаре Станиславовне. И на следующий день классный руководитель стала отчитывать девочку, которая осмелилась изобличить лодыря.

Нетерпимость учителя нарастала с каждым днем. В морозные дни Катя М. стала приходить в школу в черных шерстяных брюках. Девочка болезненная, целый месяц ее лихорадило от сильных приступов кашля. Тамара Станиславовна почему-то восприняла эту форму одежды в штыки: «Ты что вырядилась как в колхозе. Ты что — пастух!»

Катя пришла домой сильно расстроенная. Родители растерялись: как одевать теперь ребенка в школу? Папа девочки позвонил в районо и решил уточнить, какие есть инструкции на сей счет. Оказалось, никакого нарушения ученица не совершила. К слову заметим, разговор был с руководством Московского районо, а не Фрунзенского, где находится школа.

Но сам факт, что родители посмели проконсультироваться в районо, да еще позвонили директору школы, настолько возмутил Тамару Станиславовну, что она на другой же день созвала экстренное родительское собрание. И открыла его такими многозначительными словами: «К сожалению, в нашем классе есть гаденькие родители, которые нажаловались на меня в районо и директору».

Истина оказалась не в почете у классного руководителя. «Гаденькими» оказались в понимании Тамары Станиславовны все те, кто имеет свое мнение, кто не заискивает и никак не хочет участвовать в унизительных «танцах».

В течение полутора часов экстренное собрание обсуждало проблему «черных вязаных брюк». Но почему-то Тамара Станиславовна ни слова не сказала о многих, действительно давно назревших проблемах, которые следовало бы обсудить. Например, она даже не упомянула об еще одном маленьком «происшествии», которое произошло накануне.

Отличник Дима А. написал контрольную работу по математике на тройку. Но ведь он-то хорошо знал, что считается отличником. И тогда Дима вырвал из тетради лист, переписал работу без ошибок, поставил снова тройку и на следующий день, смущаясь, чуть краснея (пока еще краснея), подошел к учительнице по математике: «Простите, но я не понимаю, за что вы мне поставили тройку».

Учительница удивленно вскинула брови, внимательно посмотрела на работу. Она не сразу смогла уразуметь, как ловко ее пытался обвести вокруг пальца любимый ученик Тамары Станиславовны.

Так в классе, который еще несколько лет назад был «вторым домом», прижились неискренность, лицемерие, невнимание друг к другу. Неслучайным оказалось и это — Оксана В. заболела воспалением легких и почти месяц пролежала в больнице, но Тамара Станиславовна даже не намекнула своим подопечным о том, чтобы проведать одноклассницу, хотя больница находилась в двухстах метрах от школы.

Своими впечатлениями о проблемах, которые появились в 7 «А», родители Кати М. решили поделиться с директором школы Сергеем Владимировичем Великородновым. Кто еще, как не глава школьной администрации, мог бы в такой ситуации помочь? Но Сергей Владимирович не проявил к этому особого интереса. И в конце концов заметил, что помочь ничем не сможет, ибо учителям платят мало и он сам получает ненамного больше. А вообще, если в этой школе не нравится, ищите другую.

Конечно, Сергея Владимировича понять можно. За несколько последних лет из школы уволились десятки учителей. И уходят нередко лучшие. Но всегда ли только материальные причины побуждают педагога уходить из школы, как пытался представить дело директор?

В этом году из школы уволилась учительница английского языка, которую очень любили дети. Что же произошло? Оказывается, сам Сергей Владимирович заставлял ее поставить оценку «отлично» в аттестат одному из своих протеже. Учительница категорически отказалась: она не принадлежала к категории «танцующих».

**Кто же сегодня в школе защитит педагога от директорского произвола? Кто защитит ученика от недобросовестных притязаний учителя? Фактически никто. К сожалению, сегодняшняя школа не располагает надежным защитным механизмом против любых проявлений несправедливости. Все это создает и будет создавать благодатную почву для множества недоразумений и серьезных конфликтов.**

**«Танцующий» класс, «танцующая» школа. И чем их больше, тем беспросветнее жизнь вокруг нас. Неужели и дальше будет так?**

**Может быть и нет. Ибо в школе еще остались учителя, которые строят свои отношения с учениками на принципах справедливости, добропорядочности и любви. Они стараются сделать все возможное, чтобы наша жизнь стала хоть чуточку светлее и чище, чтобы на лицах наших детей чаще появлялась улыбка. Сегодня им очень трудно не только в материальном, но и в моральном плане.**

**Ребята все понимают. А значит, есть надежда, что «танцующие» классы не перерастут в «танцующее» общество.**

ИЗ ЖИЗНИ ДЕНЕГ

# ПОТЕРТЫЙ ДОЛЛАР ОСТАЕТСЯ В ЦЕНЕ

По словам представителей Министерства финансов США, слухи о том, что Соединенные Штаты планируют девальвировать или изъять из обращения старые банкноты, являются полностью ложными.

«Мы не планируем изымать из обращения старые банкноты, — заявил официальный представитель Министерства финансов Скотт Дайкема. --Старые банкноты будут по-прежнему и всегда будут полноценным платежным средством», — сказал Дайкема, добавив, что в прошлом Соединенные Штаты никогда не девальвировали валюту.

Сейчас в Соединенных Штатах идет работа по изменению дизайна банкнот, при этом будут добавлены некоторые средства защиты для предотвращения подделок.

Утверждение нового дизайна банкнот, которое, как ожидается, произойдет к концу года, было отсрочено из-за отъезда министра финансов Ллойда Бентсена. 100-долларовые банкноты нового образца, возможно, появятся не раньше 1995 года или в начале 1996 года.

Министерство финансов выразило удивление по поводу циркулирующих слухов, поскольку о намерении выпустить банкноты нового образца было объявлено еще в июле. Тогда же Бентсен специально заявил, что все банкноты старого образца будут обращаться наравне с новыми и их стоимость останется без изменения.

Портрет на новых банкнотах будет располагаться сбоку и будет увеличен в размерах, будет усилена защитная полоса, а также сделана надпись микропечатью на элементах рисунка и на планшетах (цветных фрагментах цветной бумаги в несколько миллиметров диаметром), впрессованных в поле банкноты. На новых банкнотах будут также нанесены специальные штрихи, которые при копировании сольются в темные пятна неправильной формы.

«Это позволит нам опережать технологическую волну, обеспечить дополнительную степень доверия к нашим деньгам внутри страны и даст уверенность в том, что доллар останется предпочтительной валютой во всем мире»,-- сказал, выступая в июле, заместитель министра финансов Фрэнк Ньюман.

**РИД (по материалам ЮСИА).**

ПОЛИТИКА

# ЧЕХИЯ ИДЕТ «НАЗАД В ЕВРОПУ»

В только что завершившемся году Чехия отметила годовщину принятия парламентом этой страны закона о противоправности коммунистического режима. Коммунистическая партия Чехословакии и режим, правивший в стране с февраля 1948 года по ноябрь 1989 года, были объявлены «преступными, незаконными и подлежащими осуждению». Согласно чешскому закону, на преступления коммунистического режима не распространяется срок давности. В преамбуле закона подчеркивается, что коммунистическая партия Чехословакии «ответственна за систематическое уничтожение ценностей европейской цивилизации, сознательное нарушение человеческих прав и свобод, нравственный и экономический упадок, замену рыночной экономики директивной, подчинение воспитания, образования и культуры политическим целям, безоглядное уничтожение природы». Чешскому правительству предписано возмещать ущерб жертвам бывшей коммунистической системы, ибо их сопротивление названо законным и справедливым.

Сегодня в Чехии провозглашен общенациональный лозунг «Назад в Европу!», в стране полным ходом и очень успешно проводятся реформы во всех областях жизни, и прежде всего в экономике. При ценах на продукты питания, одежду и обувь, сопоставимых с белорусскими, средняя заработная плата в Чехии составляет около $ 240 (в Беларуси — около $ 20). Предполагается, что через 6-8 лет Чехия станет полноправным членом Европейского экономического сообщества. Чехия изъявила желание стать также членом НАТО.

В докладе Европейского банка реконструкции и развития, обнародованном 19 октября 1994 года, Чехия признана одним из наиболее динамично развивающихся государств в Восточной Европе, которое добилось «впечатляющих успехов в реформировании экономики и повышении уровня благосостояния своих граждан».

**Алесь ВЕТЕР, РИД.**

# СВЕДЕНИЯ

## ОБ ОБЪЕКТАХ КОММУНАЛЬНОЙ СОБСТВЕННОСТИ, ПОДЛЕЖАЩИХ ПРИВАТИЗАЦИИ В IV КВАРТАЛЕ 1994 ГОДА

**Орган , осуществляющий приватизацию, — Минскгоримущество (г. Минск, пр., Скорины, 8).**
**Срок предъявления претензий —1 месяц со дня опубликования**

| Наименование объекта приватизации | | | Опытный механический завод "Промбурвод". | Арендное предприятие магазин "Алеся" |
|---|---|---|---|---|
| Адрес объекта приватизации | | | г.Минск, ул.Асаналиева, 29. | 220048, г.Минск, пр-т Машерова, 3 |
| Площадь земельного участка, занимаемого объектом, га | всего | | 2,5 | -- |
| | в т.ч. застроенная | | 1,85 | -- |
| Вид деятельности объекта приватизации | | | Изготовление и капитальный ремонт электронасосных агрегатов. | Торговля промтоварами |
| Предполагаемый способ приватизации | | | Преобразование государственного предприятия в АО открытого типа. | Выкуп арендованного имущества |
| Предполагаемая оценочная стоимость государственного имущества на момент оценки, млн. руб. | | | 1216,339 | 8,64 |
| Стоимость основных фондов, млн. руб. | всего | | 513,098 | 8,56 |
| | в т.ч. по группам | зданий и сооружений | 287,899 | 3,69 |
| | | машин и оборудования | 225,199 | 4,87 |
| | | непроизводственных фондов | -- | -- |
| Начатые инвестиционные проекты, млн.руб. (незавершенное строительство) | | | -- | -- |
| Наличие принадлежащих предприятию долей (паев, акций в активах других предприятий), млн.руб. | | | 1,246 | -- |
| Обязательства предприятия, млн. руб. | торговые | | -- | -- |
| | бюджетные | | -- | -- |
| Финансовое состояние объекта, млн. руб. | балансовая прибыль | | 1116,141 | 218,85 |
| | задолженность | кредиторская | 1325,632 | 134,77 |
| | | дебиторская | 458,902 | 32,56 |
| Нематериальные активы, млн.руб. | | | -- | -- |
| Численность работающих человек | всего | | 320 | 69 |
| | в т.ч. | рабочих | 262 | -- |
| | | специалистов | 58 | -- |

НАВІНЫ З ЛІТВЫ

## НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ МЕНШАСЦІ АБ'ЯДНОЎВАЮЦЦА

Грамадска-культурныя арганізацыі ў Літве не маюць права вылучаць кандыдатаў у дэпутаты і ўдзельнічаць непасрэдна ў кіраванні дзяржавай. Такое права прадастаўлена толькі палітычным партыям.

У сувязі з гэтым у арганізацыях нацыянальных меншасцей Літвы нарадзілася ініцыятыва стварыць сваю, аб'яднаную партыю. Ініцыятыўная група ўжо распрацавала праект праграмы і статута партыі, арганізуе іх абмеркаванне ў грамадстве.

Кандыдатамі ў новую партыю ўжо запісалася каля 700 чалавек. У іх ліку рускія, палякі, беларусы, украінцы, татары, караімы, грэкі і нават літоўцы. Для грамадзян карэннай нацыянальнасці, паводле задумы ініцыятыўнай групы, партыя таксама будзе адкрыта. Праўда, у тым выпадку, калі яны прызнаюць праграму і статут партыі, праявяць цікавасць да роўнага грамадзянскага сумеснага пражывання.

Устаноўчы з'езд партыі адбудзецца ў Вільнюсе 10 студзеня.

## ПРЭЗІДЭНТ У ТУРМЕ

За адмову плаціць падаткі больш месяца быў арыштаваны прэзідэнт Саюза прадпрымальнікаў Літвы, прэзідэнт клуба каўнаскіх капіталістаў Сташайціс. Цяпер ён утрымліваецца ў Лукішскай турме Вільнюса. Пасля яго арышту высветлілася, што канфлікт з уладамі --не адзіны ў паслужным спісе гэтага камерсанта. Толькі членам клуба капіталістаў, створанага па яго ініцыятыве, прэзідэнт мае доўг каля 20 мільёнаў долараў.

«Пакуль Сташайціс у турме, ад яго ніякай карысці», — так ацанілі сітуацыю члены клуба і вырашылі прыняць меры для яго вызвалення. На сходах у клубе ўжо не праходзяць тэарэтычныя дыскусіі аб перавагах капіталізму, аб падатковай палітыцы і перспектывах бізнесу. Галоўнай тэмай сталі пытанні: «якую ўласнасць мае Сташайціс, аддасць ён даўгі ці не, жулік ён ці не?»

В ТЕНИ РЕФОРМ

## ТОРГОВЛЯ ПОД ПРЕЗИДЕНТСКИМ КОНТРОЛЕМ

Массовая проверка по соблюдению правил торговли продуктами питания, дисциплины цен и качества была проведена Службой контроля администрации Президента Республики Беларусь в 170 предприятиях и организациях г.Минска и всех областей республики.

Установлено, что с нарушениями работают более 75 процентов субъектов хозяйствования, обслуживающих торговую деятельность. Только по Минску специалистами Службы контроля забраковано 19% цельномолочной продукции, 25% — мясных продуктов, 40% — колбасных изделий, 66% — виноградных вин. Основная причина реализации некачественных продуктов в торговой сети — отсутствие со стороны работников торговли контроля за качеством поступающих продовольственных товаров. Приемка их по качеству сводится к проверке наличия документов, удостоверяющих качество товаров, а фактическое его состояние не проверяется.

Служба контроля за допущенные нарушения уже взыскала в доход государства 97 млн. рублей, оштрафовала 168 должностных лиц на 10 млн. рублей, освободила от занимаемых должностей 22 человека. В соответствующие органы, налоговые инспекции, банковские учреждения направлены материалы на применение экономических санкций к нарушителям на сумму более 1 млрд. рублей. Служба контроля продолжает работу.

**Валерий КОЛЕСНИКОВ, Служба контроля администрации Президента РБ — специально для агентства РИД.**

АВТОПАРК ЖИВЕТ

## АВТОБУСЫ В РЕЙСЕ

Автобусный парк № 2 г. Минска, как и многие другие автопредприятия, нынче переживает трудные времена. Не хватает топлива, запчастей, не поступает новая техника. Из 146 маршрутов, на которые выходили раньше столичные «Икарусы», нынче действует только 80.

Однако, несмотря на трудности, автопарк живет. По расписанию уходят в рейсы машины.

**НА СНИМКАХ (слева направо): лучшие водители АП–2 Михаил Букрей, Максим Печерский, Виктор Симонов, Иосиф Кеда, Станислав Чирич и Павел Горбач.**

**Текст и фото А.ДРОЗДОВА.**

## «З БЕЛАРУСАЎ — У ГРЭКІ»

На правым беразе Прыпяці, на прычале «Валянскія масты» пачаў дзейнічаць перагрузачны механізаваны комплекс. Ён быў пабудаваны па заказу і пры ўдзеле ВА «Беларуськалій» для перагрузкі калійных угнаенняў салігорскіх шахт з чыгуначнага транспарту на водны.

Адсюль прадукцыя калійшчыкаў будзе загружацца ў баржы і па Прыпяці і Дняпры дастаўляцца ў Чарнаморскія парты. Затым марскімі судамі груз пераправяць у Заходнюю Еўропу і Паўднёвую Амерыку. За год рачнікі Гомельскага параходства плануюць пераправіць на поўдзень каля мільёна тон калійных угнаенняў. Разлікі паказваюць, што выкарыстанне рачнога флоту не толькі больш зручнае, але і больш таннае для аб'яднання. Перавозкам будзе садзейнічаць сумеснае беларуска-амерыканскае прадпрыемства. Такім чынам калійшчыкі адраджаюць старадаўнія еўрапейскія саляныя дарогі.

**Анатоль МАКСІМАЎ, БелаПАН.**

СУПРАЦОЎНІЦТВА

# ЗАХОДНІ СУСЕД ПРАПАНУЕ ПРАЦАВАЦЬ СУМЕСНА

**Міхаіл ВАЛЬКОЎСКІ, «ДВ».**

**У снежні ў Брэсце адбылося другое пасяджэнне беларуска–польскай камісіі па гандлёва–эканамічнаму супрацоўніцтву, якое правялі міністры знешнеэканамічных сувязей Міхаіл МАРЫНІЧ і Леслаў ПОДКАНЬСКІ. У выніку імі падпісаны пратакол аб намерах, акрэслены і прыняты накірункі супрацоўніцтва ў галіне сельскай і лясной гаспадаркі, міжнароднага турызму, абмену інфармацыяй, нарматыўнай дакументацыяй. Таксама вырашана ўдасканальваць пагранічныя пераходы, павялічваць іх колькасць.**

Так, супрацоўніцтва паміж нашай краінай і Польшчай паспяхова развіваецца і пашыраецца. Вялікі ўклад у развіццё эканамічных сувязей, рэалізацыю ўсіх планаў уносяць Бюро гандлёвага саветніка пры пасольстве Рэспублікі Польшча і прадстаўніцтвы буйных польскіх фірм у Мінску.

Іх намаганні прыносяць плён: практычна за два гады створаны трывалы падмурак супрацоўніцтва. Сёння ў рэспубліцы ўжо працуюць паўтысячы сумесных беларуска-польскіх прадпрыемстваў, больш за сто прадпрыемстваў са 100-працэнтным польскім капіталам. Расце і аб'ём гандлю. Так, за трэці квартал бягучага года ён павялічыўся больш чым на 17 працэнтаў у параўнанні з мінулагоднім. Праўда, як адзначыў гандлёвы саветнік пасольства Польшчы пан Станіслаў ПАГАРЫЛА, ёсць немалыя рэзервы для яго далейшага павелічэння. Але шмат тут залежыць ад нашай дзяржавы, ад стварэння ёю адпаведных умоў для беларускіх прадпрыемстваў (прыняцце неабходных нарматыўных актаў, зняцце існуючых бар'ераў і перашкод для знешнеэканамічнай дзейнасці, у тым ліку ў галіне разлікаў і плацяжоў, стварэнне банкаў і страхавой сістэмы). Беларусь вельмі зацікаўлена ў наладжванні цесных эканамічных адносін са сваёй заходняй суседкай, бо польская эканоміка ўжо выйшла з крызісу і цяпер вельмі дынамічна развіваецца.

У час сустрэчы прадстаўнікоў буйнейшых польскіх фірм з беларускімі журналістамі, якую наладзіла Бюро гандлёвага саветніка пасольства Польшчы, размова ішла аб прычынах, якія дазволілі палякам параўнальна хутка пераадолець крызіс, аб магчымых накірунках супрацоўніцтва. Характэрна, што ўсе польскія фірмы, якія ўдзельнічалі ў сустрэчы, даўно і паспяхова працавалі з прадпрыемствамі СССР, іншых краін СЭУ. Іх вытворчасць і прадукцыя шмат у чым былі зарыентаваны на гэты рынак.

Сёння польскіх бізнесменаў непакоіць тое, што геаграфічна і эканамічна блізкія краіны пачалі раз'ядноўвацца з-за рознай хуткасці правядзення ў іх эканамічных рэформ.

Напрыклад, яшчэ чатыры гады таму 60 працэнтаў знешняга гандлю Польшчы прыходзілася на СССР і краіны СЭУ. Сёння — толькі чвэрць. А на краіны СНД і Балтыі — усяго толькі 5 працэнтаў. Польскія бізнесмены лічаць, што такое згортванне гандлю нельга назваць падзеннем, гэта — крах. Сённяшні стан спраў не задавальняе нікога ні ў Польшчы, ні ў Беларусі, ні ў Расіі. Таму група прадпрымальнікаў і бізнесменаў стварыла ў Варшаве «Усходні клуб» — таварыства па падтрымцы гандлю з краінамі СНД, узаемнай падтрымцы супрацоўніцтва Польшчы, Беларусі, Расіі, Украіны і іншых краін былога СССР. А шляхоў супрацоўніцтва, галін, дзе нашы эканомікі ўдала дапаўняюць адна адну, вельмі шмат. Напрыклад, пан Ян КАЧОР, прадстаўнік фірмы «ЦІЭХ» у Мінску (абарот гэтага прадпрыемства самы вялікі ў Польшчы, ён складае больш за 2 мільярды долараў ЗША), прапануе хімічныя рэчывы, лекі, касметыку, а таксама шэраг цікавых праектаў па сумеснай вытворчасці прадукцыі малатанажнай хіміі, рэалізацыю ў Польшчы і на іншых рынках прадукцыі хімічных вытворчасцей Беларусі.

Прадстаўнік вядомай польскай фірмы — АТ «Бумар — Варыньскі» — пан Станіслаў КАРАТЫШ расказаў, што экскаватары з вялікім аб'ёмам каўша, якія раней выпускаліся, сёння не маюць попыту. Але прадпрыемства хутка перабудавалася і цяпер сумесна з фірмамі ФРГ пачало выпускаць сельгасмашыны. Ёсць праліча́ныя і абгрунтаваныя планы аб стварэнні сумеснага беларуска-польскага прадпрыемства па вытворчасці сучаснай сельскагаспадарчай тэхнікі. Новыя тэхналогіі вырошчвання і перапрацоўкі цукровых буракоў і іншых сельгаскультур прапануе калгасам і саўгасам Беларусі прадстаўнік фірмы «Ролімпекс» пан Анджэй ДРОЗД. Гэта фірма гандлюе таксама прадукцыяй харчавання, усім неабходным для сельскай гаспадаркі (элітным насеннем, хімічнымі сродкамі аховы раслін і гэтак далей).

Беларускіх будаўнікоў, безумоўна, зацікавяць і прапановы пана Станіслава ЗЫХА, прадстаўніка АТ «Будімпекс», сумесна вырабляць сучасныя будматэрыялы, будаваць дамы па новых тэхналогіях (у тым ліку і ў трэціх краінах). Так, дзякуючы прымяненню гэтых матэрыялаў, на ацяпленне жылых дамоў у Польшчы трацяць на 40 працэнтаў менш цеплавой энергіі, чым у Беларусі. Згадзіцеся, лічба ўнушальная. Цікавыя прапановы прагучалі таксама ад іншых удзельнікаў сустрэчы — пана Здзіслава БУРСКАГА (АТ «Універсал»), пана Дарюша ПАЎЛОЎСКАГА (АТ «Электрім»), пана Станіслава КАМІНСКАГА (АТ «Сталёва Воля»), іншых польскіх бізнесменаў.

І асноўнае ў іх не столькі развіццё гандлю гатовымі вырабамі, колькі развіццё сумеснай вытворчасці па стварэнню канкурэнтаздольнай прадукцыі.

Безумоўна, прыватны польскі капітал пакуль не можа зрабіць значных інвестыцый у нашу эканоміку. (Па-першае, вялікіх грошай у польскіх бізнесменаў пакуль няма, па-другое — адыгрывае сваю ролю недасканаласць беларускіх законаў аб замежных інвестыцыях, адсутнасць вопыту знешнеэканамічнай дзейнасці ў беларускіх прадпрыемстваў.) Але польскія бізнесмены імкнуцца ўкладваць свае грошы ў перспектыўныя галіны, прыўносіць у іх сучасныя тэхналогіі, заходні вопыт кіравання і менеджменту.

А перспектыўных галін для супрацоўніцтва, на думку начальніка ўпраўлення Міністэрства прамысловасці Аляксандра ПАСТУХОВІЧА, шмат. Сярод іх станкабудаванне і электратэхнічная прамысловасць, электроніка і прыборабудаванне, медтэхніка і фармакалогія, машынабудаванне. Як удалы прыклад супрацоўніцтва прыводзіліся прыклады вытворчасці ў Жодзіне польскага аўтамабіля «Люблін» грузападымальнасцю 1,4 тоны, зборкі на польскіх прадпрыемствах з беларускіх камплектуючых 1400 трактараў «Беларусь», а таксама аўтамабіляў «МАЗ».

## ВЫВАД – ПА ГРАФІКУ

У рамках урадавага пагаднення паміж Рэспублікай Беларусь і Расійскай Федэрацыяй аб парадку вываду з тэрыторыі Беларусі Узброеных Сіл Расіі адбыўся візіт расійскай дэлегацыі ў нашу рэспубліку. Прайшлі перагаворы па ўзгадненню графіка вываду ваенных фарміраванняў Расіі на 1995 год.

У прыватнасці, было адзначана, што графік вываду войск суседняй дзяржавы з тэрыторыі Беларусі за 1994 год поўнасцю выкананы, прэтэнзій ні з таго, ні з другога боку няма. Улічваючы эканамічныя цяжкасці ў рэспубліцы і складанасці ў далейшым выкарыстанні ваенных гарадкоў, расійскі бок адгукнуўся на ўсе прапановы беларускіх ваенных, якія датычаць тэрмінаў і парадку вываду расійскіх фарміраванняў. Пры гэтым улічваліся не толькі сённяшнія інтарэсы Узброеных Сіл рэспублікі, але і далейшае выкарыстанне ваенных аб'ектаў і фондаў у народнай гаспадарцы.

**Галіна ШАРАЕВА, БЕЛІНФАРМ.**

